**ЕГО ВЕЛИЧЕСТВО БАРТЕР**
*Колхозы вынуждены перейти на натуральную форму оплаты* 2

**МОНОПОЛИЯ ПО-ПРУЖАНСКИ,**
*или Почему покупатель не может купить качественный хлеб?* 3

**В. ПУТИН В БЕРЁЗЕ**
*Гастроли Санкт-Петербургского театра восковых фигур* 4



# ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН-КОБРЫН

выдаецца са студзеня 1997 года 8 — 14 сакавіка 2002 г. № 10 (325)

# ВЕСНА, СОЛНЦЕ, ЖЕНЩИНЫ

## 8 марта — Международный женский день




**Галина КОЛОС, главный бухгалтер Берёзовского отделения Белагропромбанка, поздравляет всех женщин с праздником!**

Гэта праўда: многае ў нашым жыцці пакуль не збылося...

Не спраўдзілася і надзея пажылых вясковых жанчын — былых калгасных паляводаў. Вось толькі адно пісьмо, з якім звяртаюцца ў розныя інстанцыі пенсіянеркі невялічкай вёскі з Драгічынскага раёна.

"У пасляваенным мінулым мы шмат год адпрацавалі у калгасе за ўсім вядомыя "палачкі". Ніхто з нас, тагачасных паляводаў, не меў ні дапамогі па догляду за дзецьмі, ні бюлетэняў на выпадак хваробы, ні надбавак за работу без выхадных і святочных дзён. Ды і пазней, атрымліваючы за сваё старанне капейкі, мы ўсё жыццё спадзяваліся на справядлівую дзяржаву, якая абавязкова ўлічыць такую сітуацыю і не пакіне нас без клопату і абароны.

Але ж выйшла інакш. Пазней, выходзячы з нашых "палачных" і капеечных працадзён, нам была налічана гэткая ж мізэрная пенсія. У выніку былыя калгасныя паляводы са стажам 30-40 гадоў, якія выконвалі мінімум працадзён на 200-300 працэнтаў, маюць сёння амаль такую ж пенсію, як і сацыяльная дапамога па старасці для тых, хто ўвогуле нідзе і ніколі не працаваў..."

Але як тады, так і цяпер, ва ўсе часы, ці не самая цяжкая доля на любой вытворчасці выпадае менавіта "слабой" палове чалавецтва. І яна цярпліва і з годнасцю нясе свой жыццёвы абавязак...

А ўспомнім нядаўнія падзеі развалу СССР, якія суправаджаліся паўсюдным скарачэннем рабочых месц і трывогай за будучыню. І зноў жа ў першую чаргу не разгубіліся, пачалі шукаць выйсце і ратаваць дастатак сям'і менавіта жанчыны. Іх з непасільнацяжкімі торбамі і баўламі можна было сустрэць у цягніку любога напрамку, на кожным вакзале і рынку. Зрэшты, значную частку прыватных прадпрымальнікаў у Драгічынскім раёне, ды і ў вобласці, пэўна, таксама, па сенняшні дзень складаюць жанчыны.

А цяпер?..

Летам адна знаёмая настаўніца суправаджала за мяжу, на адпачынак і аздараўленне, групу мясцовых дзяцей. Потым, вярнуўшыся, яна ўвесь час прыгадвала, што яе замежныя калегі з цікавасцю распытвалі, як бавяць свой вольны ад школы час, чым займаюцца нашы настаўнікі. Яна са шчырасцю прызналася, што ў большасці сваёй пасля работы педагогі займаюцца ўласнымі агародамі ды падсобнай хатняй гаспадаркай.

— Гэта ваша хобі!? — з цікавасцю і недаверам дапытваліся ў нашай настаўніцы яе замежныя калегі. Ім, пэўна, нават уявіць такое складана, што садзіць бульбу і гадаваць парсючка — гэта зусім не прыхамаць, а жыццёвая неабходнасць нашай настаўніцы.

У тым, пэўна, і ёсць самая загадкавая і таямнічая адметнасць нашай суайчыніцы, што нягледзячы на ўвесь цяжар вытворчых спраў, на паўсядзённыя абавязкі маці-гаспадыні, дома і сям'і, яна працягвае заставацца апорай і надзеяй не толькі ўсяго грамадства, але і асобна ўзятага чалавека-мужчыны.

**Галіна ВІКТАРОВІЧ.**
**г. Драгічын.**



# ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Вядзецца падпіска на перыядычныя выданні на другі квартал 2002 года.**

**Падпісная цана на**

**"ГАЗЕТУ ДЛЯ ВАС"**

**складае:**

**для індывідуальных падпісчыкаў (індэкс 63834) на адзін месяц — 1104 рублі, на квартал — 3312 рублёў.**

**ільготная падпіска ( для інвалідаў, пенсіянераў і навучэнцаў сярэдніх навучальных устаноў) на адзін месяц — 1001 рубель, на квартал — 3003 рублі.**

**для ведамаснай падпіскі (індэкс 64145) на адзін месяц — 2085 рублёў, на квартал — 6255 рублёў.**

**Газет для вас выдаецца шмат. "ГАЗЕТА ДЛЯ ВАС" толькі адна. Не забудзьцеся падпісацца на яе.**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Беларусь ждут санкции?

**Государственный департамент США не исключает возможности применения санкций против Беларуси, подозреваемой Вашингтоном в поставках оружия странам, поддерживающим международный терроризм, передает Reuters.**

"Соединенные Штаты очень серьезно относятся к сообщениям о передаче вооружений странам и организациям, поддерживающим или поощряющим терроризм", — говорится в опубликованном заявлении официального представителя американского внешнеполитического ведомства Ричарда Баучера. "Мы используем различные меры для противодействия подобного рода деятельности, включая... применение санкций там, где это необходимо".

На прошлой неделе заместитель помощника госсекретаря США Стивен Пайфер, находившийся в Минске с трехдневным визитом, сообщил, что Вашингтон располагает информацией об экспорте оружия из Беларуси в обход действующих резолюций ООН. По словам дипломата, американским властям также известно о подготовке белорусскими специалистами иракских расчетов для работы с зенитноракетными комплексами С-300.

**"Хартия-97"**

## Гімн прымуць 10 сакавіка

**Гімн, які дэмакратычная грамадскасць бачыць Гімнам незалежнай Беларусі, будзе прыняты 10 сакавіка на ўрачыстым сходзе ў Мінску. Пра гэта было вырашана падчас правядзення Нацыянальнага арганізацыйнага камітэту па святкаванню Дня Волі — 84-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі.**

Ідэя акцыі ўзнікла пасля таго, як уладамі было абвешчана аб правядзенні конкурсу на Гімн Рэспублікі Беларусь. Аднак ні ў кога не выклікаў сумненняў той факт, што конкурс дзяржавы не можа быць аб'ектыўным. Менавіта гэта і стала прычынай абвяшчэння іншага конкурсу, мінуючы дзяржаўную цэнзуру.

Увечары 10 сакавіка прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, навукоўцы, грамадскія дзеячы змогуць вызначыць той спеў, які стане, як мяркуецца, Дзяржаўным Гімнам Беларусі пасля змены ўлады.

**BARSNEWS**

## Ініцыятыва "Рух за прагрэс"

**20 лютага пачала сваю дзейнасць грамадская ініцыятыва "Рух за прагрэс".**

Грамадзяне Беларусі незалежна ад нацыянальнай, рэлігійнай, расавай прыналежнасці, мовы і сексуальнай арыентацыі аб'ядналіся для дасягнення дзвюх мэтаў: заканадаўчага ўраўнавання ў правах сям'яў, якія жывуць у грамадзянскім шлюбе, з сем'ямі, афіцыйна зарэгістраванымі незалежна ад палавой прыналежнасці мужа ці жонкі; а таксама максімальнага абмежавання ўмяшальніцтва дзяржавы і яе інстытутаў у асабістае жыццё грамадзянаў. Каардынатар грамадскай ініцыятывы "Рух за прагрэс" — журналіст Зміцер Абрамычаў. Ініцыятыва адкрыта для падпісання ўсімі, хто жадае. Да яе можна далучыцца і напісаць на адрас: Мінск-5, 220005, а/с 110.

**BARCNEWS.**

## Нелегальная торговля оружием

**В ходе расследования, проводившегося ООН, Соединенными Штатами и европейскими странами, была раскрыта гигантская сеть нелегальной торговли оружием.**

Оружие поставлялось из Африки в Афганистан через Филиппины. Центральной фигурой в этой контрабандной торговле является бывший офицер российских ВВС Виктор Анатольевич Бут. По данным газеты "Sunday Times" от 17 февраля, "он был основным поставщиком оружия и техники для сети бен Ладена в Афганистане".

"Washington Post" от 26 февраля пишет, что следователи, занимающиеся ликвидацией сети Виктора Бута, располагают информацией, которую они получили от одного его сотрудника, арестованного 8 февраля в Бельгии, Сандживана Рупра. В течение трех лет следователи пытались противостоять деятельности бывшего офицера российской армии.

**"Хартия-97".**

## Сваяк С. Грыцаўца ўзначаліў БНФ Баранавічаў

Днямі ў Баранавічах адбыўся справаздачна-выбарчы сход Баранавіцкай гарадской арганізацыі БНФ "Адраджэнне" і Партыі БНФ. На пасяджэнні прысутнічалі як старэйшыя сябры арганізацыі, так і моладзь, якой нядаўна папоўніліся шэрагі мясцовага Фронту. З Мінска ў Баранавічы прыехаў таксама старшыня БНФ Вінцук Вячорка.

Рашэннем большасці ўдзельнікаў сходу на кіраўніка Баранавіцкай гарадской арганізацыі быў абраны Алесь Грыцавец, інжынер, начальнік участка завода аўтаагрэгатаў. Цікава, што Алесь Грыцавец — нашчадак легендарнага лётчыка, двойчы героя Савецкага Саюза Сяргея Грыцаўца.

Прэс-служба БНФ.

# ЕГО ВЕЛИЧЕСТВО БАРТЕР

### Зерном и мясом колхозы рассчитаются с ПМС

**ИВАЦЕВИЧИ. Предприятие мелиоративных систем (ПМС) заключило со всеми коллективными хозяйствами района договор, согласно которому хозяйства рассчитаются с предприятием за проделанный объем работ не деньгами, а продукцией.**

Рассказывает Михаил Георгиевич Дедок, директор республиканского унитарного предприятия мелиоративных систем (Ивацевичская ПМС):

— Сами понимаете, с колхозами-совхозами мы обречены работать бок о бок. Около 54 тысяч гектаров колхозных земель в районе — когда-то были осушены, и, значит, для поддержания нормального водно-воздушного режима и ремонта и нужно предприятие мелиоративных систем. Иначе осушенные поля опять в болото превратятся.

Всего колхозы-совхозы должны нам около 35 миллионов рублей: имени Черткова, "Победа", "Большевик", "Погорье", "Доманово" и др. А соломоново решение следующее: должники рассчитываться будут не деньгами, которых нет, а урожаем, продукцией — зерном, мясом и т. д.

**Александр ГОРБАЧ.**

## Вяртаючыся да надрукаванага

### Як у "Алесі задыміла..."

**Пад такім загалоўкам у нашай газеце была надрукавана заметка, у якой паведамлялася аб пажары, што здарыўся ў дзіцячым садзіку "Алеся" ў г. Івацэвічы.**

Загадчыца дзетсада "Алеся" Т. М. Бабарыцкая патэлефанавала ў рэдакцыю і расказала аб тым, што калі дзетсад належаў прыборабудаўнічаму заводу, то ахоўваўся добра. А калі дзетсад передалі аддзелу адукацыі, сродкаў на ўтрыманне патрэбнай колькасці вартаўнікоў не стала. У выніку — сад неадназова быў абрабаваны.

Загадчыца Т. М. Бабарыцкая звярталася ў раённы аддзел адукацыі, у райфінаддзел з пытаннем аб выдзяленні дадатковых сродкаў на ўтрыманне дзённага вартаўніка. Але грошай не выдзелілі, спасылаючыся на іх адсутнасць у бюджэце. Пісала заявы загадчыца і ў міліцыю аб крадзяжах з садка, але міліцыя не ў стане змагацца з набегамі падлеткаў. Што ж на самой справе рабіць калектыву "Алесі", іншым калектывам дзіцячых устаноў Івацэвічаў, дзе становішча з аховай такое ж? Магчыма, гэта публікацыя зверне ўвагу чыноўнікаў райвыканкама на праблему аховы дзіцячых садоў!

## Жанчын разачаравалі

**БЯРОЗА.** Значная частка новага памяшкання гарадской лазні адведзена пад пральню самаабслугоўвання. Будаўнікі СПМК-22 поўнасцю падрыхтавалі памяшканне да работы. Тут усталяваны бытавыя пральныя машыны-аўтаматы, сушылкі, прасавальныя каткі.

Можна зразумець тую нецярплівасць, з якой жанчыны райцэнтра чакаюць адкрыцця пральні. Здаецца, вось-вось і... Але і напярэдадні 8 Сакавіка адкрыццё не адбылося: у апошні момант на ўрачыстасць не з'явіўся па незразумелай прычыне дырэктар КБА В. Л. Самасюк. Віноўнік урачыстасці стаў віноўнікам вялікага жаночага разачаравання...

**Мікалай СІНКЕВІЧ.**

## Тэлефон будзе ўстаноўлены

**"Добры дзень, паважаная "Газета для вас"! Я — жыхар Вулькі-Целяханскай Івацэвіцкага раёна, ветэран вайны і працы. Вясной 2001 года я падаў заяву для ўстаноўкі мне тэлефона. Мне чамусьці сказалі ў другую чаргу, запісаўшы нумар пасведчання. Як я разумею, я маю льготы на бясплатную ўстаноўку тэлефона.**

**Старым людзям вельмі неабходная сувязь: хуткую дапамогу выклікаць, а таксама дзяцей, калі патрэбна. Усё можа здарыцца".**

**Васіль Васільевіч ХАЛАДОВІЧ,**
**ветэран вайны і працы.**

Сапраўды, тэлефонаў у Вульцы-Целяханскай яшчэ мала. Гэта стала праблемай, і яна не рашаецца ўжо каторы год. Справа, вядома, у тых жа эканамічных цяжкасцях. Але, думаецца, ужо сёлета справы абавязкова зрушацца з месца. Па плану тэлефанізацыі населеных пунктаў Целяханскага пасялковага Савета ўжо сёлета тым, хто падаваў заяву своечасова, ужо пастаўлены тэлефон. А вось ветэран вайны і працы В. В. Халадовіч падаў заяву на ўстаноўку тэлефона ў апошнюю чаргу, нешта марудзіў. Але, нягледзячы на гэта, як падкрэсліла старшыня Целяханскага пассавета С. А. Крэк, вясной гэтага года пасля падвядзення кабеля тэлефон В. В. Халадовічу будзе ўстаноўлены.

**Івацэвіцкі раён.**

## Памяти бывших работников

**БЕРЕЗА.** 2 февраля на предприятии "Берёзастройматериалы" был проведён второй ежегодный турнир по бильярду памяти бывшего директора этого завода В. Н. Басалая. В нём победил нынешний генеральный директор К.А. Крейда.

23 февраля здесь же прошёл 4-й ежегодный турнир по шашкам памяти Н.П. Гука — бывшего программиста "Берёзастройматериалов".

Тройка победителей выглядит так:
**1 место** — Д. С. Бортновский.
**2 место** — В. И. Юдицкий.
**3 место** — И. И. Беринчик.

**Николай СИНКЕВИЧ.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 6.03.2002 г. (у руб. за адзін кілаграм)**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын | Кобрын |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 3500—4800 | 3500—7000 | 3300—4500 | 3500—4500 | 3500—4000 | 3000—5000 |
| Сала салёнае | 4000—4500 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3000—4000 | 3000—3500 | 3000—3500 |
| Алей (1 л) | 1700—2050 | 1500—1900 | 1700—1900 | 1700—2050 | 1700—2000 | 1700—2000 |
| Яйкі (1 дзяс.) | 1300 | 1200—1500 | 1200 | 1300 | 1300 | 1200—1400 |
| Малако (3 л) | 1000 | 800—1000 | 1000 | 1000 | 1000 | 1000 |
| Гранаты | 4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 | 3500—4000 |
| Масла сметанк. | 3000—3500 | 2500—3500 | 3500 | 3000 | 2500—3000 | 2500—3000 |
| Грушы | 3000 | 2800—3000 | 3000 | 3000 | 3000 | 3000 |
| Цыбуля | 700—800 | 700—800 | 700—900 | 700—900 | 700—900 | 600—800 |
| Капуста | 350—400 | 350 | 300—350 | — | — | 500 |
| Морква | 800 | 600—1000 | 800—1000 | 800—1000 | 600—1000 | 600—1000 |
| Памідоры | 5000 | 4500—5500 | 5000 | 5000 | 5000 | 5000 |
| Селядцы | 2200 | 1800—2000 | 2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2600 |
| Ківі (1 шт) | 400 | 280—350 | 300—400 | 350—400 | 350—400 | 350—400 |
| Грэцкія арэхі | 2200 | 2000—2500 | 2000—2500 | 2500—2500 | 2500—2500 | 2000—2500 |
| Яблыкі | 350—800 | 400—1600 | 450—700 | 450—800 | 450—800 | 500—800 |
| Маянэз (1п.) | 320—550 | 300—520 | 300—520 | 300—550 | 300—520 | 300—550 |
| Вінаград | 5000 | 2500—5000 | 5000 | 2650—5500 | 2650—5800 | — |
| Мандарыны | 2200—2500 | 2000—2200 | 2200—2600 | 2200—2600 | 2200—2600 | 2200—2600 |
| Часнок | 2000 | 2200 | 2100 | 2100 | 2100 | 2000 |
| Лімоны | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 | 2000—2200 |
| Апельсіны | 1800—2000 | 1600—2000 | 1700—1900 | 1700—1900 | 1800—2000 | 1800—2000 |
| Бананы | 1500—1800 | 1400—1600 | 1600—1800 | 1700—1800 | 1700—1800 | 1600—1700 |
| Хурма | 2500—4500 | 2100—4000 | 2500—4300 | 2100—4000 | 2100—4000 | 2000—4000 |
| Грэчка | 500—600 | 500—540 | 550—600 | 600 | 550 | 550 |
| Макар. вырабы | 600—700 | 500—650 | 650—750 | 500—650 | 500—670 | 550—630 |
| Рыс | 550—600 | 500—600 | 600—850 | 550—600 | 550—600 | 550—600 |
| Манныя крупы | 560 | 560 | 550 | 540 | 530 | 560 |
| Проса | 380 | 330 | 400 | 400 | 380—400 | 400 |
| Цукар | 730 | 730—750 | 750 | 740 | 700—730 | 700 |
| Мёд | 4500—5000 | 4000—4500 | 4000 | 4600 | 4500 | 4000—4500 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1680 | 1710 | 1670 | 1700 | 1680 | 1710 | 1680 | 1710 | 1680 | 1710 | 1680 | 1710 |
| 1 еўра | 1440 | 1480 | 1440 | 1470 | 1440 | 1480 | 1440 | 1480 | 1440 | 1480 | 1440 | 1480 |
| 1 рубель Расіі | 53 | 55 | 53 | 55 | 53 | 55 | 53 | 55 | 53 | 55 | 53 | 55 |

# МОНОПОЛИЯ ПО-ПРУЖАНСКИ,

## или Почему покупатель не может купить качественный хлеб?

**На протяжении многих лет частный предприниматель Владимир Анатольевич Галенко торгует хлебными изделиями оранчицкого и кобринского производства на территории Пружанского района. Предлагаемый покупателям хлеб пользуется хорошим спросом, что обусловлено высоким качеством и низкими ценами. И все было бы хорошо, если бы местные власти не препятствовали реализации хлеба всеми возможными способами...**

Если говорить о качестве производимого в Пружанах хлеба, то любой проживающий здесь человек подтвердит, что зачастую хлеб выпускают недостаточно пропеченным и кислым на вкус, что является особенно неблагоприятным для людей, страдающих заболеваниями желудка. После того, как Галенко занялся продажей хлеба и булочных изделий хлебопекарен г. Коброна и Оранчиц, Пружанский хлебозавод начал терять большой процент покупателей, но качество и цена хлеба остались неизменны.

Изменилось же отношение к вышеупомянутому предпринимателю. Имея лицензию на торговлю товарами, которые он реализует, имея все необходимые для предпринимательской деятельности документы, Галенко столкнулся с рядом нарушений своих прав.

Первый протокол за торговлю "в неустановленном месте" был составлен против предпринимателя в деревне. Новые Засимовичи и потерпел крушение по причине несоответствия действительности. После этого последовала проверка налоговой полиции, которая выявила несуществующие нарушения и сняла со счета Галенко 543 тысячи рублей. Эта ситуация была обжалована в Бресте, где установили, что никаких нарушений не было и нет. После рассмотрения этого дела в суде второй акт подтвердил, что правонарушений допущено не было. Однако предприниматель не мог снять деньги со своего счета в течение месяца, что нанесло ему определенный ущерб.

И тут распоряжения посыпались одно за одним. Заместитель председателя Пружанского райисполкома Сергей Иванович Козорез, председатель райпотребсоюза Владимир Георгиевич Тарасевич в различных формах воспрепятствовали продаже завозимого в Пружанский район хлеба.

**В. А. ГАЛЕНКО:** "Когда я оформлял лицензию, на выдачу которой по закону отведен один месяц, мне пришлось три месяца ждать одну подпись. Приносимые мной в райисполком в указанные сроки документы отказывались регистрировать, потому что на это нет разрешения С. И. Козореза. Таким образом, оттягивались все сроки, и нормальная торговля нарушалась. Нас дважды не впускали на пружанский рынок, опять же мотивируя это тем, что на пропуск машины с кобринским хлебом нет разрешения. В первый раз мы добились пропуска лишь к одиннадцати часам утра, когда 420 кг хлеба очерствело. Пришлось возвращать его поставщику, при этом мы потеряли 50% стоимости, не считая затрат на топливо..."

Через десять дней после произошедшего на рынке председатель Пружанского райисполкома поручил своему заместителю рассмотрение жалобы В. А. Голенко на действия администрации рынка. В комиссии было восемь человек, которые так или иначе имели отношение к торговле в районе. Прошло много времени в пустых обсуждениях, но ничего так и не решилось. Ворота на рынке по-прежнему закрыты, и люди, идущие на рынок, еле продавливаются через две узенькие калитки.

Казалось бы, перед законом все равны, но перечисленные люди своими действиями нарушают конституционные права предпринимателя, закон о лицензировании и закон о предпринимательской деятельности. Не говоря уже про вынужденные перерывы в работе и затраченные впустую силы.

**В. А. ГАЛЕНКО:** "Райисполком все борется за создание новых рабочих мест, а на самом деле пытается лишить десять моих рабочих заработка. Не будет у них этой работы — куда они пойдут? На разорившиеся заводы или начнут пить. Вот такая альтернатива.

Но самое обидное то, что при всех этих гонениях и задержаниях присутствуют покупатели. Ведь далеко не все они понимают, что происходит на самом деле. Многие, наверняка, думают, что предприниматель незаконно продает им хлеб..."

**Юлия ТЕЛЬПУК.**
**г. Пружаны.**

# ☎ Хто ўпарадкуе каталіцкія могілкі?



Святаслаў КАЖАДУБ.

**Так выглядаюць каталіцкія могілкі ля Целяхан.**

**"Я — не жыхарка Целяхан, я проста адпачывала ў санаторыі "Палессе" і некалькі разоў хадзіла ў гарадскі пасёлак. Побач дарогі, што ідзе да Целяхан, размешчаны каталіцкія могілкі. Калісьці яны былі агароджаны, а зараз зусім запушчаны, як быццам там пахаваны не людзі. Я прачытала там, што пахавана нават маці маршала Ракасоўскага.**

**Ва ўладаў, як вядома, няма грошай на такія справы. Можа, праз газету заклікаць целяханскіх католікаў навесці парадак на сваіх жа могілках?"**

**Са званка ў рэдакцыю.**

На ўзнятае пытанне адказвае **старшыня выканкама Целяханскага пасялковага Савета Святлана Андрэеўна КРЭК:** "Кожную вясну сіламі грамадскасці мы праводзім уборку гэтых недзеючых могілак. Зрабіць новую агародку мы не ў сілах — няма сродкаў. Над гэтымі могілкамі шэфствуе Целяханская школа-інтэрнат, маглі б і вучні тут папрацаваць на добраўпарадкаванні. Што ж тычыцца мясцовых католікаў, то, вядома, і яны б маглі ўнесці істотны ўклад у добраўпарадкаванне могілак. Дарэчы, у Целяханах ёсць і свой каталіцкі прыход".

У гутарцы з намеснікам дырэктара Целяханскай школы-інтэрната па вучэбна-выхаваўчай рабоце Л. М. Валуевай высветлілася тое, што кожны год вясной іх выхаванцы працуюць на добраўпарадкаванні каталіцкіх могілак. Будзе зроблена ўборка і сёлетняй вясной.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Івацэвіцкі раён.**

# Ураган над Брестчиной

Очередной атлантический циклон принёс в Беларусь проливные дожди и сильные порывы ветра.

Мощный штормовой ветер, шквалистая скорость которого достигала 25 метров в секунду, обрушился во второй половине дня прошлой среды на населённые пункты Брестчины. В итоге в 10-ти районах области пострадали более 30 населенных пунктов. Во многих населенных пунктах были сорваны крыши с жилых, административных и производственных зданий. Сейчас в области создана специальная комиссия по ликвидации последствий стихии. Необходимые для ремонта стройматериалы уже завозятся потерпевшим. По предварительным оценкам, народнохозяйственному комплексу нанесен ущерб на десятки миллионов белорусских рублей.

Были отключены от электроэнергии 145 населённых пунктов, 42 животноводческие фермы, водозаборы в Ганцевичском, Ивацевичском, Дрогичинском районах.

В связи с заявлениями о поврежденных крышах на гаражах, телятниках, сеновалах, дворовых постройках руководство области принимает меры для централизованной закупки на заводах Беларуси шифера и рубероида.



Николай СИНКЕВИЧ.

**Склад УТП "Оптово-торговая база" в д. Первомайская Берёзовского района, разрушенный ураганным ветром.**

**Николай СИНКЕВИЧ.**
**г. Берёза.**

# І новыя лыжы, і новую мэблю

## выпускае рэспубліканскае ўнітарнае лесагаспадарчае прадпрыемства "Целяханы"

Гаворка пойдзе непасрэдна пра Целяханскую лыжную фабрыку. І вось чаму. У апошнія гады гэтае прадпрыемства здало, так сказаць, свае пазіцыі.

З рэарганізацыяй прадпрыемства, з прыходам новых кіраўнікоў вытворчасць прыкметна ажывілася.

Аднавіўся выпуск розных відаў лыжаў.

Асобна вылучаюцца спартыўна-бегавыя лыжы — дрэвапластыкавыя. Яны прадназначаны і для дарослых, і для падлеткаў.

— Мінулі гады, — кажа намеснік дырэктара прадпрыемства па вытворчасці і збыту Аляксандр Аляксандравіч Протас, — калі мы існавалі толькі з-за адных лыжаў. Тады прадпрыемства выжывала, прадаючы гэтую прадукцыю. Зараз, можна сказаць, гэта не праходзіць. Таму мы пайшлі на выпуск і іншай прадукцыі, каб мець новыя рабочыя месцы. Калі наладзіцца як след вытворчасць і збыт прадукцыі, тады можам чакаць і вышэйшай аплаты працы. Гэта ўжо, як кажуць, не за гарамі...



**Набор мэблі для кухні "Паланэз".**

Нельга не пагадзіцца з Аляксандрам Аляксандравічам. У сённяшніх цяжкіх эканамічных умовах, калі згублены многія сувязі, асабліва з аптовымі пакупнікамі, трэба абнаўляць прадукцыю і знаходзіць рынкі збыту. І такую прадукцыю ў Целяханах пачалі выпускаць. Хоць з цяжкасцю, але знаходзяцца ўжо і пастаянныя рынкі збыту.



**Целяханскія лыжы.**

На выстаўцы непасрэдна на прадпрыемстве, а таксама ў іхнім магазіне ў Івацэвічах ёсць значны выбар мэблі для пакупнікоў. Што ж новага прапануецца наведвальнікам?



**Тумба прыложкавая.**

Па-першае, нельга абмінуць навінку — набор мэблі пад назвай "Паланэз". Спадабаюцца пакупнікам ложкі розных памераў, тумбы прыложкавыя з масіўнай драўніны, крэслы з разьбовымі элементамі з масіўнай драўніны, сталы... Варта зазначыць, што ўся мэбля зроблена з натуральнага дрэва.

Па-другое, любую мэблю наведвальнікі могуць заказаць на свой густ, у тым ліку і більярдны стол з сапраўдным зялёным полем для будучых "настольных бітваў". Яшчэ адно: у Целяханах і Івацэвічах ад лесапрадпрыемства працуюць салоны-магазіны, дзе можна набыць патрэбную мэблю.

А. А. Протас упэўнены, што ўжо праз некаторы час іх прадпрыемства ўсё ж стане рэнтабельным, а яго прадукцыя набудзе добрую славу.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**Фота аўтара.**
**г. п. Целяханы.**

# ВОЗМОЖЕН ЛИ МАТРИАРХАТ

## в белорусской политике?

**Сегодня хотелось бы, уважаемый читатель (и — прежде всего! — читательницы), завязать разговор, который касается места белорусской женщины в политике и того, насколько белорусская политическая жизнь нуждается, собственно, в женщине.**

**Разговор, считаю, тем более уместен, потому что женщина на сегодняшний день так и не стала частью политического спектра в Республике Беларусь.**

**Почему?**



Этак добрый пяток лет тому назад довелось в одной пёстрой и весёлой компании во время "рекламной паузы" услышать комментарий молодой женщины (включен телевизор, телеведущий рассказывает о планах Эллы Панфиловой, которая баллотировалась в президенты Российской Федерации):

— Ещё баба тут какаято в политику суётся; сидела бы, нос не высовывая...

Действительно, не высовывают наши женщины нос; что в Беларуси, что в России, о политической жизни которой мы прекрасно осведомлены, благодаря российским телеканалам, которые никогда не переключаются.

Женщина в правительстве или в руководстве партии, объединения, движения — это экзотика, почти что нонсенс. Но почему это так в Беларуси? Ведь история знает немало случаев, когда женщина (начиная от Жанны Д'арк, заканчивая Маргарет Тэтчер), стоявшая во главе, отнюдь не портила игру.

Что тормозит присутствие женщины в политике? Есть устойчивое мнение, что у нас нет таковых традиций, что женщина в наших политических и экономических условиях — своеобразное слабое звено, не до них-де. Такое мнение, не спорю, вполне имеет право на жизнь, но, кроме вышеупомянутого, есть иные тормова, о которых мало говорится.

Если на Востоке взаимоотношение женщин — своеобразное взаимоотношение подруг по несчастью, а на Западе — солидарность деловых и напористых леди нечто само собой разумеющееся, то у нас, славян, женщины очень недоверчиво, если хотите, недоброжелательно относятся к попыткам другой женщины проявить себя.

И в парламент, на иные должности у нас идут средние незаметные мужчины. Ведь почему-то считается, что наша женщина придаёт тому кругу людей, где находится, некую несерьёзность, даже легкомысленность. Считается, что её деловитость — это имидж, а не естественное качество. Вот и получается: если наши дамы и не в парандже, как на Востоке, но и не имеют того веса, который имеют дамы на Западе. Женщина в Беларуси — этакое переходное звено, но, удивительнее всего, что они же, считая, что мужчины многое делают скверно, скорее проголосуют за мужчину. Милые мысли о матриархате не пройдут не потому, что мужчины станут "на дыбки", а потому, что женщины сами не допустят, чтобы ими руководила другая женщина. Взаимоотношения наших дам между собой — это, вообще, тема для отдельного разговора. Пусть наш юмор насквозь пронизан анекдотами о взаимоотношениях тёщи и зятя, но эти околофольклорные дрязги ничто в сравнении с тем, какие чаще всего разыгрываются трагедии во взаимоотношениях свекровей и невесток.

Чего стоят анекдоты о семейной жизни известных людей высокого ранга, навязшие на зубах шуточкиприбауточки о жене, живущей отдельно от мужа скоро восемь лет. И не возмутятся наши женщины, не проявят солидарность! Необходимость подчеркнуть более низкое положение женщины — это почти норма в Беларуси. Грустно...

И мы дожились до того, что всерьёз говорили о введении женских квот — в парламенте, правительстве. Неужели нет иного, нормального пути для того, чтобы женский образ тоже стал частью политики, а не, простите, частью декорации?

**Александр МИХАЛЕНКО.**
**г. Ивацевичи.**

# Обращение

## Объединённой гражданской партии к субъектам КРДС, КСООП, ФПБ и Верховному Совету

Политическая кампания под названием "президентские выборы" не решила ни одной проблемы, стоящей перед страной. Наоборот, ситуация в последние месяцы усугубилась. Уровень жизни людей снижается. Реальная зарплата в среднем по стране составляет менее 90 долларов США, а в бюджетной сфере — 65-70 тысяч белорусских рублей. При этом во многих регионах учителя, врачи, работники сельского хозяйства получают зарплату с задержкой. Рост инфляции только за январь составил более 6%. Как следствие, безудержный рост цен. По уровню инвестиционной привлекательности Беларусь занимает 135 место в мире, а по индексу экономических свобод — 148.

Такой безответственной, разрушительной политике властей можно противодействовать, только объединив усилия всех организованных субъектов. Сейчас не время для рекламных акций. Нужны действия, которые объединяют, а не разъединяют. Необходимы как понятные цели и задачи, так и коллективные усилия по их реализации.

Мы призываем субъекты, входящие в КРДС, КСООП, ФПБ, депутатов Верховного Совета объединить свои усилия для организации и проведения весной текущего года двух совместных акций. Мы предлагаем поддержать инициативу профсоюзов и провести акцию протеста против снижения уровня жизни населения, а также традиционный Чернобыльский шлях.

Объединимся вокруг того, что волнует всех: зарплата, стипендия, пенсия, здоровье!

Просьба сформулировать своё отношение к данной инициативе.

Контактный телефон/факс 2-11-02-79.

# Берёзу "посетил" В. Путин


IREX/ProMedia.

Да, самый что ни на есть настоящий В. В. П., правда, не живой, а восковый.

Кроме него, в выставочном зале Берёзовского музея ещё расположились Григорий Распутин, Александр II, Александр Суворов, Чарли Чаплин, Виктор Цой, Леонардо ди Каприо, мумия Рамзеса II — всего 18 восковых фигур Питерской выставки "Великие и знаменитые".

Кроме познавательного, выставка носит и просветительский характер. Часть экспозиции — "Кунсткамера" — представлена анатомическими препаратами человеческих зародышей, имеющих отклонения от нормального развития по причине злоупотребления их родителей табаком и алкоголем. Удовольствие лицезреть, а то и потрогать за руку известных персонажей обойдётся рядовому гражданину в 1500 белорусских рублей, школьникам и пенсионерам — в 1000 рублей. Кроме того, за дополнительную плату (1500 рублей) с ними можно сфотографироваться.

**Николай СИНКЕВИЧ.**
**г. Береза.**

# Медицина становится полностью платной

В соответствии с Постановлением Совета Министров РБ от 26 июня 2001 г. №954 "О внесении изменений и дополнений в Постановление Кабинета Министров РБ от 27 августа 1996 года №566" и последующими за ним в начале 2002 года соответствующими Приказами главных врачей всех медицинских учреждений Беларуси, был значительно расширен перечень платных медицинских услуг, оказываемых населению медицинскими учреждениями, сообщает praca.by. В данный перечень входят практически все, начиная от выдачи любого вида справок (в среднем 700 рублей), заканчивая различного рода ультразвуковыми и рентгенологическими исследованиями (от 2000 до 16000). Драматизм ситуации связан с тем, что большая часть граждан страны, имея и без того мизерные доходы и пенсии, лишена права выбора, как это практикуется во всех цивилизованных странах мира — либо ты платишь сам за все необходимые медицинские услуги, либо за тебя платит соответствующая страховая компания.

**Хартия-97.**

# Ці хацелі б вы, каб краінай кіравала жанчына?

## Адказваюць жыхары г. Івацэвічы



**САША:** Хацеў бы! Бардака менш было б. І парадак, і дабрабыт быў, калі Маргарэт Тэтчэр кіравала Вялікабрытаніяй. У нас зарплата 50 тысяч, пенсія — 100 тысяч. Гэта нармальна?



**АНТАНІНА:** Нехай жанчыны кіруюць. Не для экзотыкі, а для парадку. Жанчына — істота гаспадарлівая. У яе дзяржаве быў бы такі парадак, нібы ў кватэры. Я ў гэтым упэўнена.



**МІХАІЛ ІВАНАВІЧ:** Вы што, здурэлі? Тут з прэзідэнта толку няма, а вы жадаеце, каб жанчына кіравала краінай. З іх і дома толку ніякага, а палезуць яны ў палітыку, то (махае рукой)...



**ІГАР:** Не хацеў бы. Яшчэ чаго не хапала. Мужчыны больш ураўнаважаныя, спакойныя. Любой салідная краіна павінен кіраваць мужчына — і толькі. Жанчына — стварэнне несур'ёзнае.



**УЛАДЗІМІР МІКАЛАЕВІЧ:** Такога цуда ў нас яшчэ не было... Можа, гэта і да лепшага, хто ведае. Прасветаў і так у жыцці ніякіх, можа, жанчына паправіць сітуацыю ў краіне.



**НАДЗЕЯ ІВАНАЎНА:** Хацела б, бо, думаю, толк у краіне быў бы абавязкова. Дапамога сем'ям, жанчыне, дзецям была б вялікая... Каму-каму, а жанчынам жылося б цудоўна.

**У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ, Мікалай СІНКЕВІЧ (фота).**

